Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 16. Вільня, 26 чэрвеня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ



| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Мінкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Аб „Беларускім Сялянскім Саюзе".

Ідэя заснаваньня «Беларускага Сялянскага Саюзу» — здаровая ідэя, бо ніхто так не патрапіць бараніць сялянскіх інтарэсаў, як толькі самі сяляне, арганізованыя ў сваю ўласную палітычную і эканамічную арганізацыю. „Беларускі Сялянскі Саюз" патрэбен таксама і з пункту гледжаньня нацыянальнага, — ўжо адно істнаваньне масавае беларускае сялянскае арганізацыі значна палепшыла-б і культурную працу і наагул спрыяла-б узмацаваньню беларускага адраджэнскага руху. Зусім зразумелая рэч, што да такое паважнае справы, як арганізацыя „Беларускага Сялянскага Саюзу", трэба і падходу паважнага. Мала напісаць такую-сякую праграму, альбо статут, трэба добра прадумаць ідэолёгію арганізацыі, яе кірунак і кожны крок арганізацыйнае працы. Усё гэта патрэбна хоць-бы дзеля таго, каб забясьпечыць сябе ад унутранага крызысу і развалу, ад хістаньняў направа і налева, ад розных уплываў і капрызаў.

Закладчыкам Б.С.С. трэба было таксама добра памятаць і лёс сялянскіх партыяў іншых народаў, асабліва польскае партыі «Вызваленьне», лёс Стамбулінскага (Баўгарыя) і Радзіча (Юга-Славія), якія ня вытрымалі экзамену гісторыі і аказаліся няздольнымі ў адпаведны крытычны момант павясьці за сабой сялянства і здабыць яму належныя правы і ўплыў на дзяржаўнае і эканамічнае жыцьцё. Кароткая і далёка не такая ўжо слаўная гісторыя „Беларускага Сялянскага Саюзу", які сягоньня перажываець цяжкі ідэйны і арганізацыйны крызыс, павінна шмат чаму навучыць нашае сялянства.

Бо што азначаець істнаваньне аж двух беларускіх сялянскіх саюзаў, якое маем сягоньня.

Калі разглядаць скандальны выступ Янкі Станкевіча і яго прыхільнікаў (гл. аднаднёўка „Народ"— Вільня 14 чэрвеня) толькі з пункту гледжаньня нашых віленскіх звычаяў, то гэта не такая ўжо вялікая бяда. Мала хто з кім сварыцца сягоньня ў Вільні. Але для справы сялянскае выступленьне Я. Станкевіча, які залажыў новы Цэнтральны Камітэт Б. С. С. ў Вільні, побач з ужо істнуючым Цэнтральным Камітэтам Сялянскага Саюзу Ярэміча, Рагулі і Більдзюкевіча — гэта ўжо бяда значна горшая і бяда гэтая ў тым, што яна пагражаець братняю барацьбою сялян на вёсцы. Пагражаець самой ідэі «Беларускага Сялянскага Саюзу», да якое шэрая сялянская маса пасьля віленскіх скандалаў будзе адносіцца без патрэбнага даверыя. А калі прыняць пад увагу яшчэ істнаваньне трэцяе сялянскае арганізацыі пад назовам „Радыкальная Сялянская Партыя Беларускіх Земляў", заснованай нядаўна пасламі Шакуном, Бонам і Шапелем, то можна прыйсьці да рос-

пачы і ўпасьці духам. Мімаволі паўстае адначасна з гэтым пытаньне: дзе прычыны гэтага ідэйнага разброду і развалу, які зусім не патрэбен беларускаму народу? Якая варожая рука кіруе правадырамі ўсіх гэтых скарасьпелых арганізацыяў? Бо зразумелая рэч: чым больш будзець на нашай вёсцы «партыяў», тым слабейшы будзець беларускі сялянскі рух, пачнецца хатняя барацьба сялян паміж сабою, пачнуцца інтрыгі і правакацыі, а бараніць інтарэсы вёскі ня будзець каму, а ўплывы шматмільённае сялянскае масы на дзяржаўнае і эканамічнае жыцьцё краю будуць зьведзены да мінімуму. Такая пэрспэктыва не варожыць нашаму сялянству нічога добрага і пакуль хвароба і яд разладу не атруцяць нашае вёскі — трэба з ёю начаць рашучую барацьбу. Само сялянства павінна падняць голас пратэсту проціў безадказных палітыканаў і лёс свой узяць у свае ўласныя рукі.

Прэч грызьню! Прэч няўдалых правадыроў, якія ня маюць у галаве кіраўнічае сялянскае думкі, а толькі спэкулююць народам і дыскрэдытуюць ідэю сялянскае арганізацыі.

Сялянства наша мусіць голасна сказаць усім гэтым новым партыям: Калі ня можаце пагадзіцца паміж сабою — адыйдзеце ў бок ад вёскі, якая здолееь сама, бяз вашае дапамогі, арганізавацца ў свой адзіны Беларускі Сялянскі Саюз — у сваю адзіную партыю працы над палітычным, эканамічным і культурным адраджэньнем нашага пазеленага і заняпалага беларускага краю.

---

# Песьня-кліч!

Беларусь, ты мая, паднявольная,
Гэй, старонaчка ты бяздольная,
Гэй зямліца мая — маці родная,
Дзе-жа ж воля твая, дзе — Гаротная?

Шырыня ты, прастор, лясы цудныя
І браточкі мае непрабудныя.
Вы, балоты, пяскі непраходныя,
Гэй, вы птушкі, зьвяры мае родныя.

Дый адклікнемся мы, мы загнаныя,
Дружна гукнем усе аб'яднаныя,
Голас хай загудзіць, вецер ўсхопіцца,
Словы-ж нашыя, хай пакоцяцца.

Дый пра гора-бяду, дый аб струджаньні,
Дый народу ўсяго аб прабуджаньні,
Хай пачуе ўвесь сьвет, што нам хочацца.
Хай пачуе усяк, хай усхопіцца.

*Вітэблянін.*

---

# Успаміны з Пэрсіі.

(*Гл. № 15 „Б.Д.“*).

Цікаўны жэст Пэрса, калі ён хоча паклікаць да сябе. Тады пэрс выцягвае наперад руку і, трымаючы яе на вышыні пляча, рухам згары ўніз маніць да сябе чалавека. Рух далоні зьнізу ўгару азначае: „ідзі вон, проч“. Робяць яны гэта даволі прыгожа. Цікаўны таксама ў Пэрсаў спосаб прывітаньня. Вітаючы, датыкае Пэрс пальцамі рукі свайго лоба, губаў і грудзей, пры гэным галавой і усім корпусам сваім аддае паклон, кажучы пры гэным: „Сэлям алейкюм““!

Прывітаньне гэнае выглядае таксама вельмі прыгожа. Ня ведама, як паміж сабою, але ў адносінах да чужынцаў пэрсы вельмі ветлівы, я-бы сказаў, залішне ветлівы, так што ветлівасьць іх іншы раз пачынае быць няпрыемнай і робіць уражаньне нейкай кітайскай цэрэмоніі. Прыпамінаю гэткую цэрэмонію пры спатканьні з афіцэрам Казачай Пэрсідзкай Брыгады. *)

*) Казачая Пэрсідзкая Брыгада — гэта аснова рэгулярнага Пэрсідзкага войска, якое пачало тварыцца ў Пэрсіі зусім нядаўна пад кіраўніцтвам расейскіх інструктароў.

Спаткаліся мы з ім на пастоі ў Алі-Абадзе, рэзыдэнцыі некага хана, які, як староньнік Туркаў, мусіў пакінуць свой двор перад прыходам расейскага войска. Афіцэр гэны паклікаў мяне, як свайго „кардаш“ (таварыша) на сьнеданьне. Ён таксама быў у падарожы і з некалькімі сваімі жаўнерамі ехаў па службовых справах у горад Кум. Афіцэр ветліва прывітаў мяне сваім звычаем. Я адказаў яму тым самым і мы падалі адзін аднаму рукі. Ён знакам рукі папрасіў мяне сесьці на дыван, на якім, налітая ў маленечкія шляначкі, стаяла гарбата, цукер і пара птушак. Афіцэр умеў трошкі гаварыць панямецку і мы з ім разгаварыліся.

— Гэта галубы,—тлумачыў ён мне, — я сягоньня застрэліў іх.

— З вінтоўкі застрэлілі? — пацікавіўся я.

— З вінтоўкі, — адказаў пэрс. Ня ведаю ці брахаў ён, ці не, але калі запраўды з вінтоўкі, то з яго мусіў быць добры стралец.

— Як ваша імя?—цікавіўся далей стралец. — Я адказаў. — А прозьвішча якое?

Калі я і тут здаволіў яго цікавасьць, дык ён дастаў запісную кніжачку і запісаў.

# Бедная моладасьць.

Нудна цячэш ты, жыцьцё сіратлівае
Чым я ад'значу свой век малады?
Шэрай імглою густою спавітыя,
Шпарка бягуць за гадамі гады.

Сілы ў грудзёх маіх, просяць даць волю,
Час скарыстаць, гэты час дарагі —
Дайце-ж прастору мне, дайце разлогу,
Роднай мясьціны мае берагі.

Моладасьць сумная, бедная моладасьць!
Чым ты ўспамянеш пражытыя дне?
Хіба той песьняй нядолі балючай
Ты распацешыш, разважыш мяне.

Нудна — ня весела, думкі балючыя
Мучаць так часта няяснай тугой.
Кіньце, даволі, ці-ж мала цярпеў я?!
Дайце мне волю, душы супакой.

Моладасьць сумная, бедная моладасьць,
Што занялала, прачхніся ад сну —
Час красаваца, цьвісьці яркім цьветам
Час! — больш ня ўбачыш красуню вясну.

*Міхась Васілёк.*

---

## МАЛЕНЬКІ ФЭЛЬЕТОН.

### Экзамен грамадзкай дасьпеласьці.

Як на вёсцы бывае гарачая пара падчас сенакосу альбо жніва, гэтак сама і ў нашай школьнай моладзі ў канцы вясны і пачатку лета пачынаецца гарачая пара: яна папраўляе свае двойкі, заканчвае школьныя працы, здае экзамены. Але ў сёлетнім годзе да здачы экзаменаў змушана было і наша сялянства. Экзаменам гэным ёсьць выбары ў самаўрады.

Дзе-ня-дзе яны ўжо скончыліся, ў іншых зноў месцах ідуць яшчэ і цяперака.

Так! пры тэй сыстэме выбараў у самаўрады, якая ў нас істнуе, пры сыстэме дэмакратычнай, дазваляючай выяўленьне волі шырокіх народных масаў, вынікі выбараў у самаўрады — зьяўляюцца запраўды мерая дасьпеласьці нашага грамадзянства. Па рэзультаце іх будуць судзіць людзі, ці грамадзянства нашае і цяпер, як за часы маскоўскага самадзяржаўя, засталося стадам цёмных авец, аб долі каторага мелі права дбаць толькі прыстаўленыя да яго царскія пастухі, ці вырасла яно на запраўдных грамадзян дэмакратычнае дзяржавы, якія **ня толькі маюць права, але і патрапяць сваімі рукамі будаваць сабе лепшае жыцьцё ў сваіх самаўрадах.**

Бо як ні круціся, а тых людзей, якія пападуць у самаўрады, ня можна лічыць іначай, як толькі прадстаўнікамі нашага грамадзянства, бо ўсё-ж грамадзянства мела права выбіраць іх.

Калі ў кіраўнікі самаўрадаў пападуць людзі чэсныя, людзі разумныя і паважаныя, якія патрапяць наладзіць працу самаўраду згодна з інтарэсамі грамадзянства—чэсьць і хвала грамадзянству, якое выбрала такіх людзей: яно здало экзамен свае грамадзкае дасьпеласьці.

А калі пападуць п'яніцы, зладзеі, дурні, альбо крыкуны, якія нічога добрага зрабіць не патрапяць—

---

— Вельмі прыгожае ў Вас імя і прозьвішча,— казаў ён, ветліва усьміхаючыся.

— А бацькі Вашага, як імя?—пытаў ён далей, рыхтуючыся зноў запісаць яго. Я адказаў. — А маці, як? І туткі на мяне пасыпаўся цэлы дождж пытаньняў. Якое імя мае жонкі, дзетак, братоў, сёстраў, пытаў ён мяне, дзе я жыву, і хваліў, хваліў усё, што толькі датычыла мае асобы і хвалячы запісаў усё гэта ў кніжку. Паводлуг яго, і імя бацькі майго, і імя братоў і сёстраў і назоў гораду—ўсё гэта было „чох якшы“ (вельмі добра). Ведама, калі скончыў ён сваё літаньне, дык я мусіў адказаць яму тым самым і, дастаўшы таксама кніжку і алавік, пачаў экзаменаваць яго, запісваць і хваліць. Пасьля гэнага ў гутарцы ён усьцяж стараўся пераканаць мяне, што такога знамянітага „кардаш“, як я, ён спатыкае першы раз і казаў далей, што ён мой вялікі прыяцель, на якога я магу лічыць заўсягды. Ведама, я мусіў адказваць яму тым самым і брахаў, як наняты, стараючыся папасьці ў тон свайму новаму слаўнаму прыяцелю, прозьвішча каторага цяперака зусім не памятую, ня гледзячы на тое, што так сама, як і ён, абяцаўся імя і прозьвішча яго запісаць ня толькі ў кніжцы, але і ў сэрцы і душы сваёй.

— Так, так!—гаварылі мы з ім вельмі поэтычнымі зваротамі, ў якіх сэрца, душа, вечнасьць, прыязьнь — займалі паважнае месца.

Чугунучная лінія ў Пэрсіі разьвіта мала. На вялікім абшары Пэрсіі, які мне давялося аб'ехаць падчас вайны, чугунку я бачыў адзін толькі раз — у Тэгэране. Яна злучае Тэгеран з летняй рэзыдэнцыяй Хана, адлеглай ад Тэгэрану на 12—14 кілёмэтраў. Наагул спосабаў комунікацыі, здабытых разьвіцьцём тэхнікі, якія ў Эўропе знайшлі гэткае застасаваньне, — Пэрсы амаль ня ведаюць зусім. Для іх і цяперака, як сотні год таму назад, адзіным спосабам для перавозкі тавараў, пошты і людзей нават на вялікую адлегласьць зьяўляецца конь, мул, асёл і вярблюд.

Конь служыць выключна для перавозкі людзей, тады як тавары перавозяць на вярблюдох, аслох мулах. Ведама, гэткі спосаб перавозкі каштуе шмат грошай і страшэнна падымае цану прывозных тавараў, так што робіць іх іншы раз зусім недаступнымі спажыўцу. Бывалі здарэньні, што ў месцах, дзе збожжа не ўрадзіла, людзі мёрлі з голаду тады, як у іншых месцах, дзе ўраджай быў добры, сяляне ня мел куды падзець свайго хлеба толькі дзеля таго, ш т

сорам таму грамадзянству, якое выбірала іх, бо запраўды толькі грамада п'яніц, злодзеяў, дурняў, альбо беспутных крыкуноў-гарлапанаў можа выбраць такіх людзей. Так, даражэнькія чытачы: паводлуг тых людзей, якіх выбераце ў самаўрады, ўвесь сьвет будзе судзіць аб вас самых. Нічога не памогуць тлумачэньні таго ці іншага грамадзяніна, што ён ня быў на выбарах, што выбіралі іншыя, што заместа тысячы людзей—на выбары прыйшло толькі сотня і што вось гэная сотня выбрала гэткіх благіх людзей, а рэшта 900 каб выбірала, дык выбрала-б іншых, лепшых.

Не! гэткім тлумачэньнем нічога не дакажаш, бо на яго адзін адказ:

— Меў права выбіраць, дык трэба было ісьці на выбары, а калі не пашоў, думаючы, што і без цябе выбяруць каго трэба, дык ты, братко, запраўды дурань, бо толькі дурань можа думаць, што нехта падбае аб ім; а калі ты ня дурань, дык гультай, бо паляніўся прайсьці ці праехаць некалькі кілёмэтраў, каб падаць, дзе трэба, свой голас.

Прыкрая рэч для нашае моладзі—ня здаць экзамену.

Праходзе год часу, бацька і матка лаюць, а то і скуру дзягай параўнуюць.

Сялянам, якія не здадуць свайго экзамену, выбраўшы ў самаўрады непатрэбных людзей, прападзе не адзін год часу, а некалькі гадоў. Матка і бацька, праўда, ня будуць ім раўнаваць скуры дзягамі, але параўнуе ім скуру само жыцьцё, параўнуюць ім скуру падаткі, накладаныя выбранымі імі малайцамі, якія яны будуць траціць намарна, альбо набіваць сабе кішані.

Ох, дрэнна будзе нязлаўшым выбарнага экзамену, тым горай, што і вінаваціць няма каго, бо толькі самі вінаваты.

Дык дай-жа вам Божа, дарагія чытачы, здаць гэны экзамен, а дзеля таго на сам перш усе, як адзін, ідзеце на выбары і выбірайце гэткіх людзей, якіх вам раіў у № 14 „Б. Дзень"., і якіх паміж нашага беларускага сялянства знайсьці можна шмат.

*Шастун.*

---

Рэдакцыя літэратурна-грамадзкага месячніка

## „Беларуская Культура"

**часова месьціцца ў рэдакцыі „Беларускага Дня": Ціхая 4—20.**

Рукапісы для першага нумару прымаюцца: літэратурны матар'ял да першага ліпня, артыкулы і іншы матар'ял да 10 ліпня.

---

## Да нашых корэспондэнтаў!

Рэдакцыя просіць усіх нашых корэспондэнтаў з вёскі прысылаць весткі аб тым, як прайшлі выбары ў валасныя самаўрады, колькі выбрана беларусаў і іншых нацыянальнасьцяў і наогул асьвятляць выбарчую кампанію.

---

перавозка яго ў галодныя вакругі каштавала так дорага, што сялянства галодных вакругоў не магло купляць прывознага хлеба. Аднак, ня гледзячы на дарагоўлю гэнага спосабу перавозкі тавараў, перавозны рух па трактах даволі вялікі. Аграмадныя караваны вярблюдоў, аслоў і мулаў, дасягаючыя іншы раз некальсот ... некалькіх сотняў жывёлы, звычайная зьява падчас падарожы. Вельмі арыгінальна выглядаюць гэныя жывыя цягнікі Пэрсіі. Прадвесьнікам яго зьяўляецца вялізарная хмара пылу, падыманага нагамі жывёлы. Паволі пры прыбліжэньні каравану, з гэнае хмары пачынае выпаўзаць доўгі ланцуг вярблюдоў, нагружаных таварам. Тавар запакованы ў клумкі, якія на вяроўках, перакіненыя праз горб вярблюда, зьвісаюць з абодвых бакоў яго. Вярблюды адзін з адным злучаны тонкім шнурочкам. І, сьмешна сказаць, шнурочак гэны, які запраўды магло-б парваць дзіця, змушае гэных караблёў пустыні трымацца парадку, выцягнуўшыся доўгім ланцугом, зьяўляючыся для іх нейкім сымболем улады чалавека, які ў вобразе „чарвадараў" (пагоншчыкаў скаціны) вядзе караван. Мулы і аслы ідуць кожны паасобку, грамадкамі. Для падтрыманьня парадку і послуху чарвадары ўжываюць не бізуна, а палкі і кароткага шыла. Непаслушную скаціну, якая ня хоча ісьці, чарвадар, падышоўшы з боку, проста коле шылам у кумпякі і гэткім спосабам змушае да послуху усю сваю чацьвераножную каманду. Спатканьне каравану з самаходам, асабліва ўночы, гэта — цэлая катастрофа для каравану. Асьветленыя сьвятлом самаходных рэфлектараў, напуджаныя гулам мотораў, вярблюды разрываюць са страху вяроўкі, путаюць ланцуг, а іншыя кідаюцца ўцякаць. Мулы і аслы зьбіваюцца ў адну кучу, націскаюць адзін на аднаго і падымаюць страшэнны гвалт. Шмат часу праходзіць, пакуль чарвадары, пры помачы свайго шыла патрапяць ачысьціць дарогу і зноў прывясьці караван у парадак. Вельмі часта на жывёлу ў караванах навешваюць званочкі. Званочкі гэныя падбіраюць рознай велічыні і тону. У ціхі вечар здалёку ўжо чутны яны. Сотні, тысячы званкоў зьліваюцца ў адзін магутны гарманійны акорд, які на хвалях паветра ляціць у прасторы. У цемры вечара ня відаць каравану і здаецца тады слухачу, што дзіўная музыка званкоў льецца з неба, быццам далёкі адгалосак той музыкі, тых песьняў, якімі ў небе духі чыстыя хваляць Усемагутнага Бога!

Канец першай часьці.

**Дзядзька Пранук.**

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Доўгасрочныя пазычкі на інвэстыцыю.

Патрэбы земляробаў у цяперашніх варунках зьяўляюцца проста палючымі. Зараз-жа пасьля вайны землероб мог жыць нейкі час у зямлянцы і там трымаць свой такі-сякі інвэнтар, бо тады йшло перш за ўсё аб тое, каб пеpажыць цяжкія часы і захаваць жыцьцё. Можна было пачакаць з дрэнажаваньнем зямлі, бо выраблены адлог мог даць сякі-такі плод, а плады зямлі мелі тады гэтак вялікую цану, што служылі ледзь што не грашмі, як мера іншых вартасьцяў.

Цяпер-жа ўжо час падумаць аб поступе ў земляробстве і культуры на вёсцы. Бяз добрых гігіенічных гаспадарчых будынкаў нельга думаць аб гадоўлі добрага пародзістага інвэнтару, бяз добрае выгоднае хаты для жыцьця ня можа быць гутаркі аб радасьці жыцьця і напружанай працы— неабходнага варунку поступу на вёсцы; дрэнажаваньне палёў зьяўляецца настолькі пільнаю справаю, што нават і старыя адсталыя земляробы голасна гаворыць аб гэтым і рашаюцца на вялікі расход, каб мець хоць бульбу, якая ў шмат якіх мясцовасьцях, як у лонскім годзе, зусім не апраўдала надзеяў. Каб гэтыя пільныя патрэбы залагодзіць, дык ведама-ж трэба мець адразу шмат грошай, што, аднак-жа, гэтак трудна, асабліва цяпер, у дробнай гаспадарцы.

Па прычыне вельмы розных патрэбаў, ня можа быць гутаркі, каб даходу з гаспадаркі магло земляробу хапіць, ня гледзячы на старанлівасьць і абмежаваньне сваіх патрэбаў. Дзеля гэтага вялікім дабрадзействам для земляроба ёсьць доўгасрочны крэдыт, які дае Дзяржаўны Зямельны Банк (Państwowy Bank Rolny). Нажаль, ня ўсе тыя, хто патрабуе, могуць ім карыстацца, бо вялізная большасьць дробных земляробаў мае зямлю незагіпотэкованую, а тыя, што маюць выкліканую гіпотэку дзеля таго, што яны неарганізованыя, што ня маюць дзе дастаць парадаў і наказаньняў, як адтрымаць гэтую пазычку, чакаюць месяцамі на свае прашэньні, якія самі складалі, аж пакуль не адтрымаюць адмоўнага адказу і зусім зьнеахвочваюцца да якіх-нібудзь пазычак.

Аб элемэнтарнай рэгуляцыі пазычак зьмесьцім артыкул у найбліжэйшым нумары. Гэта даволі доўгая і каштоўная працэдура. Найважней тое, што яна каштоўная, бо выкліканьне гіпотэкі неаднакроць даходзіць да некалькіх дзесяткоў злотых.

Земляробскія арганізацыі павінны гэтым заняцца, каб магчыма упрасьціць гэту працэдуру і панізіць кошт яе. Адначасна з урэгуляваньнем зямельных адносін камасацыяй і ліквідацыяй сэрвітутаў, дапаўненьнем куртатых гаспадарак, надзелам фальварковае службы павінна была-б надыйсьці і рэгуляцыя гіпотэкаў, бо для гля гэткіх— гаспадарак найболей будзе патрэбна доўгасрочная пазычка.

Тыя, што ўжо маюць выкліканую гіпотэку, павінны пастарацца ўрэгуляваць яе так, каб можна было адтрымаць пазычку, бо часта здараецца, што колькі гаспадароў супольна закупілі зямлю, аднак-жа фармальна не правялі падзелу. Калі адзін з іх захоча адтрымаць пазычку, дык павінен будзе альбо адтрымаць згоду рэшты суўласьнікаў на абцяжараньне даўгом усяе маемасьці, альбо фармальна правясьці выдзяленьне свае зямлі. Падобна да гэтага бывае, калі ўласьнік памёр і ёсьць насьледнікі; тады, каб дастаць

## Навуковая біографія Максіма Багдановіча.

Аб творчасьці Максіма Багдановіча ёсьць ужо багатая літэратура. Дзесятыя ўгодкі сьмерці далі ў гэтым сэнсе шмат. У часопісах, як на Ўсходзе, так і ў нас, незалежна ад напрамкаў, было выдрукавана шмат артыкулаў, якія сьведчаць, што кароткім жыцьцём Максіма Багдановіча зацікавіліся вучоныя і пачаліся навуковыя досьледы, як біографічныя, так і літэратурна-крытычная. Асабліва шмат зрабілі ў гэтым кірунку менчукі, прафэсары Піотуховіч і Замоцін. Апошні падаў у Менскім беларускім друку кароткую, добра апрацованую, біографію М. Багдановіча. З тае прычыны, што ў нас можна даведацца аб жыцьці М. Багдановіча толькі з кніжкі М. Гарэцкага „Гісторыя беларускай літэратуры“, дзе жыцьцё поэта апісана далёка няпоўна, а таксама і таму, што некаторыя біографічныя факты, паданыя М. Гарэцкім у першых выданьнях яго кніжкі, ня зусім сходзяцца з апошнімі навуковымі досьледамі, лічым патрэбным азнаёміць нашых чытачоў з біографіяй Максіма Багдановіча, апрацованай праф. Замоціным, якую ніжэй друкуем у скарачэньні.

Максім Багдановіч радзіўся 27 лістапада (ст. ст.) 1891 г. ў Менску на Троіцкай Гары, на Аляксандраўскай вуліцы, у доме Карказовіча (цяпер дом № 25), у двары, на другім паверсе. Там зьмяшчалася тады 1-е прыходзкае вучылішча, ў якім працаваў і жыў яго бацька.

Па бацьку поэта зьвязаны з сялянствам, па матцы — з інтэлігэнцыяй. У сэнсе псыхолёгічнай спадчыны ён адтрымаў ад продкаў па лініі бацькоў раньняе захапленьне беларускай старадаўнасьцю, асабліва народнай поэзіяй, ад маткі яму перадалося жывое ваабражэньне і здольнасьць да творчасьці.

Раньнія гады Максіма Багдановіча (1891-1892) прайшлі ў Горадне і ў Н.-Ноўгарадзе, дзе яго бацька, пакінуўшы настаўніцтва ў Менску (Максіму тады было 6 месяцаў ад нараджэньня), служыў у аддзяленьнях Сялянскага Зямельнага банку. За гады жыцьця ў Горадне (1892-1896) трэба адзначыць уражаньне ад беларускай прыроды і выхаваўчы ўплыў маткі, якая сваімі адносінамі да дзяцей і належна пастаўленымі гульнямі змагла разьвіць жвавасьць,

пазычку, трэба альбо фармальна правясьці падзел, альбо, калі фармальнага падзелу няма і пазычкі стараецца адзін з насьледнікаў, дык павінен адтрымаць пісьменную згоду рэшты іх на абцяжараньне даўгом маемасьці. У выпадку, калі нехта ўжо мае на гіпотэцы доўг і хоча, апрача гэтага, дастаць пазычку з Дзяржаўнага Зямельнага Банку, дык тады лепш прасіць Дз. З. Б. аб пазычцы на сплату гэтага даўгу, далучаючы пісаную згоду крэдытора на прыняцьце сплаты ў польскіх злотых, калі пазычка была ўзята ў іншай валюце. Вышэй за гэтую пазычку можна адтрымаць столькі, колькі выходзіць з ацэнкі зямлі.

Няраз здараецца, што той, хто стараецца пазычкі, мае вельмі малы гіпотэчны доўг, які мог-бы выплаціць уласнымі коштамі, а, ня глядзячы на гэта, не ўрэгуляваўшы яго, зьвяртаецца ў Дзярж. Зям. Банк. Дз. З. Б. забясьпечвае пазычку, ўпісваючы яе на першы нумар гіпотэкі, праз гэта й іншыя гіпотэчныя даўгі, зробленыя раней, толькі валтузяць і адцягваюць вырашэньне справы.

Дз. З. Б. трэбуе выпісі з усіх чатырох аддзелаў гіпотэчнае кнігі, з названьнем паходжаньня акту ўласнасьці. Гіпотэчныя аддзелы няраз выдаюць выпісі альбо ня зусім з 2-х, 3-х аддзелаў, альбо, што здараецца часьцей, не называюць паходжаньня акту ўласнасьці. Гэткае рабленьне справы выклікае лішнія кошты тых, хто стараецца пазычкі, і адцягвае закончаньне справы. Трэба помніць аб гэтых вымаганьнях Дз. З. Банку і паінфармаваць пры затрэбаваньні выпісі, што выпісь патрэбна да прашэньня на адтрыманьне доўгасрочнае пазычкі з Дз. З. Банку.

Апрача таго, ў выпадку, калі бярэцца пазычка з Дз. З. Б. на сплату негіпотэковых даўгоў, вымагаецца: 1) пасьведчаньне валаснога ўраду, паводле ўзору паданага ў камунікаце Дз.З.Б., 2) паказаньне пэтэнта, на якую мэту зрабіў доўг і 3) пісаную згоду крэдытора на прыняцьце належнасьці з адтрыманае пазычкі ў Дз. З. Б.

У выпадку, калі бярэцца пазычка на сямейныя сплаты, трэба далучыць які-нібудзь дакумэнт—тэстамэнт, натарыяльны акт, судовы прыгавар або рашэньне палюбоўнага суда, які дакумэнт пацьвярджаў-бы факт падзелу і неабходнасьць сплаты. Часта здараецпа, што прысылаюць прашэньне, ў якім гаворыцца, што пазычка зьяўляецца неабходнай на пасаг дачцэ і ўмяшчаецца гэта ў рубрыцы на „сямейныя сплаты“. Ёсьць ведама, што гэткае прашэньне ня можа быць узята пад увагу, бо ніхто законам не абавязаны даваць дарослым дзецям пасагу.

У выпадку, калі робіцца ў Дз.З. Банку доўг на інвэстыцыі, трэба назваць род інвэстыцыі і падаць у прыбліжэньні каштарыс, пасьведчаны валасным урадам, які таксама сьцьвярджае неабходнасьць выкананьня замераных інвэстыцыяў. Трэба помніць, што пазычка можа быць выдана на трывалыя, цесна зьвязаныя з земляробствам інвэстыцыі, дакананыя на об'екце, які мае быць абцяжараны даўгом. Бываюць няраз гэткія прашэньні, ў якіх просяць пазычкі на будаваньне хаты аддзеленаму сыну, альбо выданай замуж дачцэ. Ня гледзячы на тое, што кожнае паабяцаньне ці абавязаньне, рахуючыся з гонарам, мусіць быць выпаўнена, Дз. З. Банк у даным выпадку ня можа браць пад увагу падобных просьбаў, бо ёсьць патрэбы важнейшыя, як даваньне падарункаў.

Бываюць і такія выпадкі, што падаюць прашэньні бяз ніякіх дакумэнтаў і далучэньняў, пішуць сажнёвыя пісьмы, дарэмна марнуюць час на праезды да места, дзеля таго, каб пераканацца, што ня гледзячы на самыя горкія жальбы і стараньні, пазычкі адтрымаць нельга.

Замест таго, каб пайсьці да земляробскае арганізацыі якая добра паінфармуе і паможа справе зусім бясплатна, радзяцца ў розных бра-

---

пачуцьця і ваабражэньня ў будучым поэце.

У гады жыцьця ў Н.-Ноўгарадзе (з восені 1896 году), калі Максім, яго сястра і браты засталіся бяз маткі, рана памёршай ад сухотаў, добра адбіўся на яго разьвіцьці ўплыў бацькі, які сыстэматычна і ўсебакова паставіў пачатковае навучаньне сваіх дзяцей. У гэтыя гады Максім побач з іншымі літэратурнымі ўзорамі азнаёміўся ўпяршыню з беларускай народнай поэзіяй і з беларускаю моваю.

Школьны курс навучаньня ён праходзіў спачатку ў гімназіі (1902-1908 г.), затым (у зьвязку з пераездам бацькі на службу ў Яраслаўль) у Яраслаўскай гімназіі (1908-1911 г.). У 1911 г. ён скончыў курс гімназіі. З гімназічнага пэрыяду трэба ад'значыць, папершае, уплыў часткі настаўнікаў, з якой адзін А. К. Кабанаў, беларус па пахаджэньню і знаўца беларускай гісторыі замацаваў ухіл у бок беларусазнаўства, які Максім адтрымаў у сваёй сям'і; па-другое, трэба прыняць на ўвагу ўдзел Максіма ў гімназічным рэвалюцыйным руху (1905-1906 г.), які ўзмацніў у ім цікавасьць да палітычных і соцыяльных тэм, затым увайшоўшых у склад яго літэратурнай творчасьці; затым трэба яшчэ ўлічыць, як крыніцу творчасьці, яго летнія паездкі на кумыс і ў Крым (1904, 1905, 1909 гады). Паездкі былі выкліканы сухотнымі працэсамі, але разам з тым ўзбагацілі яго яскравымі ўражаньнямі прыроды і быту.

Пасьля сканчэньня гімназіі Багдановіч думаў паступіць у Пецярбурскі унівэрсытэт на гістарычна-філёлёгічны факультэт: яго цягнула тады вывучэньне беларускай мовы, этнаграфіі і літэратуры, тым больш, што акадэмік Шахматаў, на падставе рэкамандацыі, «Нашай Нівы», меў на ўвазе яго, як кандыдата для падрыхтоўкі к замяшчэньню спэцыяльнай катэдры па беларусазнаўству. Але стан здароўя і абмежаваныя сродкі бацькі не давалі яму ажыцьцявіць гэтай думкі, і ён паступіў у Яраслаўскі юрыдычны ліцэй. За гэтыя ліцэйскія гады (1911-1916) канчаткава выязначыўся ў Максіма інтарэс да навукі. Ён выявіўся ў трох канцэнтрах: 1) сусьветная літэратура і замежныя мовы (уключаючы стара-лацінскую і грэцкую), 2) славянскія літэратуры і славянскія мовы (у заходня-эўропэйскай і расейскай літэратурах яго цікавілі сымболістыя), 3) беларуская мова, беларуская літэратура і наогул беларусазнаўства. Студэнцкія гады былі скарыстаны, галоўным чынам, для працы па

хунцоў, якія за бутэльку абяцаюць залатыя горы, пішуць нячуваныя гісторыі і ў рэзультаце з гэтага нічога няма, апрача стратаў. Гэткія ягомасьці вышукваюць знаёмых вураднікаў, адбіраюць у іх без патрэбы час, просячы гэткае, што нічога ня значыць, пратэкцыі, аж пакуль зьнеахвочаныя да ўсіх і ўсяго, не пачнуць наракаць на „парадкі“ ў Польшчы і злясловяць зусім беспадстаўна.

Дробныя земляробы павінны зразумець, што грашавыя справы мусяць быць абстаўлены ўсялякімі фармальнасьцямі, дзеля таго, што людзей злой волі ёсьць вельмі шмат, а дзяржаўныя установы ня могуць падводзіць публічнае дабро пад страту. Значыцца, трэба паддацца вымаганьням Дзярж. Зям. Банку, бо яны неабходныя.

Іншыя далучэньні, як страхавыя полісы, статыстычныя анкеты — неабходныя пры кожным прашэньні — не насоўваюць ніякіх няпэўнасьцяў. Ёсьць труднасьці і кошты зрабіць плян уласнасьці і рэестр памеру. Для малых гаспадарак даволі пасьведчаньня валасьці аб колькасьці ўжыткаў і няўжыткаў з выказаньнем межаў уласнасьці.

Падробна, як адтрымаць пазычку на інвэстыцыю, падамо ў чародным нумары.

## Як адтрымаць доўгасрочную пазычку на аплату даўгоў.

Дзяржаўны Зямельны Банк прымае заявы аб выданьні, згодна з правіламі за 14 ліпня 1926 г. („Monitor Polski“ Nr. 129) доўгасрочных амортызацыйных пазычак у закладных лістох. Пазычкі гэтыя даюць на аплату кароткасрочных абавязаньняў, зробленых на гаспадарчыя патрэбы, а таксама на сплаты, якія выплываюць з тэстамэнтных распараджэньняў і сямейных падзелаў.

У выпадках, калі на перашкодзе выданьню на вышэйназваныя мэты ў закладных лістох будуць стаяць даўнейшыя гіпотэчныя даўгі, дык пазычка можа быць выдана ў разьмеры, які зрабіў-бы магчымай сплату таксама і гэтых даўгоў, паколькі гэта пазваляе ацэнка маемасьці.

З мэтай адтрыманьня пазычкі на вышэйназваныя мэты, трэба падаць гэткія дакумэнты:

1) прашэньне аб прызнаньні пазычкі ў закладных лістох Банку, з паказаньнем яе назначэньвя, а апрача таго назову і палажэньня (павет, валасьць) зямельнае маемасьці, яе абшару, разьмеру і сроку жаданай пазычкі;

2) засьведчаную адносным валасным урадам опісь гаспадаркі (статыстычную анкету, паводле устаноўленага Банкам узору);

3) полісы страхоўкі будынкаў ад агню;

4) довады паходжаньня даўгоў і спосаб іх выкарыстаньня, а таксама і згоду крэдытораў на прыняцьце сплаты іхняга крэдыту.

Апрача злажэньня вышэйпералічаных дакумэнтаў, Банк можа трэбаваць дастаўленьня плянаў маемасьці.

Пазычкі, на вышэйпаказаныя мэты, будуць выдавацца ўласьнікам вясковых гаспадарак у абшары, які не пераходзіць аснаўных нормаў уладаньня, прадбачаных законам 28 сьнежня 1925 году аб выкананьні зямельнае рэформы (Dz. Ust. R. P. 9/I 1926. Nr. 1, poz. 1).

Пасьля адтрыманьня вышэйпаказаных дакумэнтаў, дапоўненых у выпадку патрэбы іншымі неабходнымі довадамі, Банк загадае ацэнку маемасьці.

Ацэнка можа быць зроблена:

1) таксатарам Банку на месцы і тады на кошты,

---

гэтых канцэнтрах, асабліва па вывучэньні беларускай мовы, беларускай гісторыі, этнаграфіі, літэратуры. У 1911 годзе, перад паступленьнем у ліцэй, М. А. зьезьдзіў у Вільню і правёў лета ў маёнтку паміж Вілейкай і Менскам. Гэта паездка паставіла яго тварам к твару з бацькаўшчынай, асабова пазнаёміла з прадстаўнікамі беларускага руху, якія ўваходзілі ў склад рэдакцыі „Нашай Нівы“ і ўзбагаціла яго новымі тэмамі для літэтатурнай творчасьці. Разам з тым ён мацней зьвязаўся з рэдакцыяй «Нашай Нівы», куды пасылаў свае вершы яшчэ з 1909 году.

З іншых выданьняў ён мацней усяго зьвязаўся з „Украинской Жизнью“, дзе і пачаў друкаваць свае артыкулы і нарысы. Грамадзкія яго сувязі за гэтыя гады, мяркуючы па яго перапісцы, групаваліся навокала таварышоў па Яраслаўлю і яраслаўскаму „Голосу“ і, асабліва каля супрацоўнікаў „Нашай Нівы“. Гэта сувязь дала магчымасць Багдановічу блізка падыйсьці да зьместу беларускага руху і разам з тым не адарвала яго ад тых агульных палітычных і соцыяльных пытаньняў, якія хвалявалі перадавое грамадзтва ня толькі Яраслаўля, але і ўсяе тагочаснае Расеі. Абодвы гэтыя моманты знайшлі сабе месца ў яго тэматыцы. За гэтыя-ж гады наладзілася і некаторая асабовая сувязь, перажыты былі і асабовыя захапленьні, як па Яраслаўлю, так і ў сувязі з летнімі паездкамі (на кумыс — 1913 г., у Крым — 1915 год), што дало матар‘ял, галоўным чынам, для яго інтымнай лірыкі. Нажаль, хвароба Максіма ў гэтыя гады прыкметна разьвівалася.

Па сканчэньні ліцэю ўвосень 1916 г., М. А. другі раз паехаў у Беларусь, — у гэты раз не для часовай навукі, а на службу бацькаўшчыне.

Але здароў‘е яго ўсё пагаршалася — сухоты рабілі сваю справу.

У лютым 1917 году ён адтрымаў водпуск у Крым для лячэньня, куды і паехаў у канцы м-ца. Пражыўшы ў Ялце два з лішкай м-цы, ён памер там 12 (25) траўня і там-жа быў пахованы.

Максім Багдановіч, як поэт, ішоў, бязумоўна, да вышыні мастацкага слова, да шырокай популярнасьці, якая павінна была выйсьці за абшары Беларусі. Сьмерць спыніла яго мастацкую працу ў той момант, калі яго талент пачынаў уступаць у пару свайго поўнага росквіту.

зьвязаныя з выездам таксатара, трэба ўнясьці: за абшар, які не пераходзіць за 25 га — 50 злотых, які не перавышае 50 га — 75 злотых, 100 га — 100 злотых, 150 га — 125 злотых і г. д., лічачы за кожныя далейшыя 150 га — 25 злотых.

2) камэральна бяз выезду на месца, а гэта альбо на аснове сярэдніх нармальных цэнаў на ўжытковую зямлю, альбо і на аснове прадстаўленых дакумэнтаў, прызнаных Банкам дастатачнымі (odpisy operatów taksowych T. K. Z.; аркушы маемасьці і згодныя з імі гіпотэчныя выпісы, копія з кастральных мапаў разам з выпіскай матрыкулы зямельнага падатку і кнігі дамовага падатку і г. д.).

На аснове ацэнкі маемасьці Банк выдае пазычку да $1/2$ ацэнкі, устаноўленай таксатарам на месцы, альбо да $1/3$ ацэнкі, устаноўленай камэральна (бяз выезду на месца).

Пазычка ня можа быць выдана, калі разьмер яе, азначаны на аснове устаноўленае ацэнкі, быў-бы большым, як 500 злотых золатам.

Пазычкі будуць выдавацца на 10, 20 або 30 гадоў у 8% закладных лістох Зямельнага Банку, гаворачых аб злотых у золаце.

Разьмер поўгадавых ратаў, якімі пазычка будзе сплачвана, будзе раўняцца разам з амортызацыяй злотым у золаце:

а) пры 10-гадовай пазычцы па 7 зл. 50 гр. ад кожных 100 зл. пазычкі, б) пры 20 гадовай па 5 зл. 6 гр., в) пры 30-гадовай па 4 зл. 43 гр.

Апрача таго, пры кожнай раце будзе браны дадатак на адміністрацыю ў разьмеры $3/4$% ад намінальнае сумы даўгу.

Паўгадавыя раты будуць плачаны 1 красавіка і 1 кастрычніка штогоду.

Закладныя лісты, адтрыманыя ў гэтых пазычках, рэалізуюцца цяпер Банкам на рахунак даўжнікоў, якія праз гэта адтрымліваюць пазычкі ў гатоўцы.

## Пра сяўбу збожжа і хутары.

Сяляне наагул сеюць усё загуста. Думаюць, што чым гусьцей, тым больш будуць мець ураджай. Аднак гэта ня так. Чым гусьцей будзе пасеяна, тым горшы будзе ўраджай і тым горшае зярнё. А гэта вось чаму:

Каб расьліна магла добра разьвівацца і ўвосень даць адпаведны ўраджай, мусіць яна знайсьці ў зямлі дастатачную для сябе спажыву. І калі, што-небудзь будзе загуста пасеяна, то калі ўзойдзе, дык расьліна сядзіць пры расьліне, карэньні іх перапутаўшыся; карэньні аднае расьліны высмоктваюць спажыўны сок з другой расьліны, такім чынам слабейшыя расьліны пачынаюць галадаць, яны жаўцеюць і ўміраюць. Дык як трэба сеяць? Рэцэптаў на сяўбу збожжа ёсьць многа, аднак ніводнага ня можна трымацца, бо сяўба залежыць ад шмат якіх абставінаў. Па хлеўным гнаі, пры ўжытку штучнага гною трэба садзіць радзей, бяз ніякіх гнаёў, на пясчанай зямлі — гусьцей. Так сама залежыць ад таго, ці сяўба адбываецца раньняй вясной, ці пазьней і ад гатунку самага насеньня.

Калі сеецца раньняй вясной, то трэба сеяць ня вельмі густа, калі пазьней, дык гусьцей, бо хутчэй пасьпеець. Калі насеньне пэўнае і добрае, тады трэба сеяць радзей, чым благое няпэўнае.

На нашых землях наагул гэтакіх правілаў трэба прытрымоўвацца пры сяўбе. На адну дзесяціну трэба высейваць — пшаніцы азімай каля 9 пудоў, ярай 11 п., гароху 13 п., аўса 11 п., ячменю 10 п., жыта 10 п., ярыцы 14 п., грэчкі $6^1/2$ п., вікі (на насеньне) 10 п., на пашу $11^1/2$ п., лубіну на насеньне 12 п., на зялёнае ўлепшаньне 16 п., лёну на насеньне $4^1/2$ п., на валакно 5 п. Паданая кольскасьць падходзіць да сяўбы ручной. Пры сяўбе ў рады сеўнікам трэба трымацца іншых правілаў, якіх тут не падаем, дзеля таго, што нашыя сяляне нажаль, ятчэ радавых сеўнікаў ня ўжываюць. Скажу некалькі слоў пра карысьць сяўбы радавым сеўнікам. Як ведама, пры ручной сяўбе мы закопваем зярняты пры помачы пружыноўкі, бараны, плуга альбо сахі. Дзеля гэтага ня ведаем, ці ўсе зярняты ўзойдуць. Прынамсі пятая часьць ня ўзойдзе, бо адно зярня ляжа заглыбока, другое астанецца на версе і г. д.

Сеючы радавым сеўнікам зярнё не прападае, дзеля таго, што радавы сеўнік трубкамі садзіць зярняты ў зямлю на аднамерную глыбіню, на якую мы захочам. Гэтакім парадкам, кожнае зярнё ўзыйдзе, абы было толькі добрае.

Як бачым, сеючы радавым сеўнікам, маем тую карысьць, што не прападае прынамсі пятая часьць насеньня, апрача таго ўраджай напэўна будзе большы, чым пры ручной сяўбе, бо пры радавай сяўбе кожнае зярня раўнамерна расьце і аграваецца сонцам падчас росту, ад чаго расьліна становіцца моцнай і цьвёрдай, колас буйны. Такім чынам, радавы сеўнік рэч вельмі карысная. Найлепшым і найдагаднейшым для сялян ёсьць сеўнік 5-ць радовы, ён лёгкі, так што ўдваіх яго можна цягаць. Можна яго купіць у 2 — 3-х і карыстацца. Бяда толькі, што вялікай перашкодай у карыстаньні радавымі сеўнікамі — гэта нашыя вузенькія палоскі. На хутарох, на якія кожны селянін абавязкова мусіць старацца перайсьці, там толькі сейце радавымі сеўнікамі.

*Зыдар Зарак.*

# Гаспадарчыя парады.

## Ня трэба трымаць масла на сонечным сьвятле.

Масла, на якое дзеюць сонечныя праменьні, і наагул выстаўленае праз нейкі час на дзеяньні дзённага сьвятла — хутка псуецца. Сьцьверджана, што сонечныя праменьні прычыняюцца да ялчэньня масла вельмі хутка.

Досыць пратрымаць у працягу 15 мінут масла на сонечным сьвятле, каб яно згубіла свой добры смак, а набрала смаку ёлкага лою.

З гэтае прычыны трэба старацца ня трымаць масла на сьвятле.

Трымаць яго трэба ў месцы цёмным і халодным.

## Малако лёгка прымае ў сябе ўсялякі пах.

Часта малако сьвежае і несапсованае мае прыкры смак і пах. Прычынаю гэтага ёсьць тое, што малако лёгка прымае ўсялякі пах з акружаючага.

Даволі пратрымаць яго праз кароткі час у душным хляве, альбо ў неправетранай каморы, каб яно згубіла свой смак і пах. Дзеля гэтага ляпей, асабліва летам, даіць карову на вольным паветры. Малако некалькі разоў пераліць, каб выветрылася і паставіць у чыстым судзьдзі ў халодным месцы, ў лядоўні ці ў халоднай вадзе. Судзьдзё з малаком трэба шчыльна закрываць.

(„Kultura").

## Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

### Дзіцячая пасьцель.

Усім мацяркам вядома, што дзіця, а асабліва нованароджанае, патрабуе цяплыні больш, як дарослы. Навуковыя досьледы таксама гэта пацьвярджаюць: з досьледаў гэтых выходзіць, што найбольш цяплыні дзіця губляе праз выпарваньне (ахаладзеньне) скуры, — а паверхня скуры ў дзіцяці ледзь ня ў тры разы большая, як у дарослага, калі яе аблічым адносна да цела. Але навука выкрыла і іншыя асаблівасьці дзіцяці. Дарослы чалавек датарноўваецца даволі лёгка да зьменаў цяплыні таго, якое яго акружае, паветра: калі выходзіць на холад, дык тады яго крывіносныя прыладзьдзе, г. зн. тыя трубкі, якімі плыве кроў, курчыцца пры раптоўным ахаладжэньні (творыцца гэтак званая „гусіная скура"); а ў цяпле крывіносныя прылады расшыраюцца—скура робіцца чырвонаю, вільготнаю; пры звужэньні прыладаў (на холадзе) менш крыві прыплывае да скуры, выпарваньне памяншаецца і цяплыня затрымліваецца ў целе; а пры расшырэньні прыладаў (пачырваненьні скуры) выпарваньне большае, чалавек пацее і лішка ўнутранае цяплыні падлягае паменшаньню. Гэткім чынам чалавечая будова рэгулюе сваю ўнутраную цяплыню, утрымліваючы тэмпэратуру цела больш-менш на аднолькавым роўні. Вось-жа, чым маладзейшае дзіця, тым слабейшая гэта здольнасьць рэгуляваньня ўнутранае цяплыні. Аднак-жа, гэта датычыць ня толькі халоднага, але й занадта цёплага паветра; дзіця халадзее лёгка, але таксама й лёгка паддаецца пераграваньню, калі яго будзем трымаць у залішнім цяпле альбо ўкрыем вельмі цёпла. Трэба гэта разумець і помніць, калі справа йдзе аб пасланьні і вопратцы дзіцяці. Ужываныя ў нас найчасьцей падушкі з пер'я не адказваюць вымаганьням гігіены, таму што якраз выклікаюць лішняе пераграваньне дзяцей. Шмат лепей і рацыянальней, калі дзіця ляжыць ня сяньнічку з марское травы або валосься ці нават і на звычайным сяньнічку, абы ён быў роўна напханы, і толькі зьверху можа быць прыкрыта падушачкай з лёгкага гусінага пер'я. Улетку падушачка з пер'я наагул лішняя і павінна быць заменена лёгкім коўдрам, таму што падчас сьпёкі перагрэньне дзіцяці і лішняя ўтрата вады выклікае вельмі цяжкія забурэньні і зьяўляецца прычынаю павялічанае сьмяротнасьці дзяцей у летнюю пару. Таксама падушку, як і коўдра пакрываем завязанаю цясёмкамі навалкаю з белага матар'ялу, мяняючы яе пасьля кожнага забруджэньня. Чыстата пасьцелі і порцяў зьяўляецца яе найбольшаю аздобаю, за тое ўсялякія каронкавыя ўстаўкі і гафцікі зьяўляюцца лішнімі, таму што ў патрэбнай меры не забясьпечваюць пасьцелі ад замачэньня. Нязьмерна важна, каб дзіця, ня было сьціснена ў падушцы: моцнае спавіваньне затрудняе рухі дзіцяці і тамуе доступ паветра, а скура, як сказана вышэй, таксама „дыхае" і паветра гэтага патрабуе. Сяньнічок (альбо падушку) дзіцяці пакрываем цыраткай, якая не прапушчае вільгаці, каб усьцерагчы пасьцель ад замачэньня — але цыратка ніколі не павінна быць акручвана вакол дзіцяці, таму што яна ў яшчэ большай ступені затрудняе доступ паветра. Порце дзіцяці павінна быць часта зьмяняным і ніколі нельга ўжываць змочанага порця пасьля таго, як яно высахне, пакуль яно дакладна ня вымыта; цыратка таксама павінна быць штодня мыта вадою з мылам.

(„Kultura").

---

## Хроніка беларускага руху.

### Беларуская стыхія ў Смаленшчыне.

Як вядома, большасьць жыхарства Смаленшчыны належыць да беларускае нацыянальнасьці. Тым ня менш Смаленшчына ў склад Беларускае Савецкае Рэспублікі не ўваходзіць. Беларуская нацыянальная праца, нават у рамках дазволенага бальшавіцкаю праграмаю, спатыкаецца там шмат розных перашкодаў, як збоку русіфікатарскіх элемэнтаў, так і з боку савецкіх уладаў. Тым ня менш беларуская нацыянальная стыхія дае сябе адчуваць на кожным кроку. Жаданьне беларускіх школаў павялічваецца. І гэта змусіла губэрніяльны камісарыят асьветы адчыніць у 1926 годзе 20 школьных групаў першага году навучаньня на беларускай мове. У некаторых з школаў вучні старэйшых групаў жадаюць вучыцца гэтак сама, як і першыя клясы, на беларускай мове. Гэта паказвае, што беларускія школы ў Смаленшчыне больш мэтазгодныя, як расейскія. Адносіны сялянства да беларускіх школ вельмі спагадлівыя. Перашкаджае шпаркаму пашырэньню нацыянальнага руху адсутнасьць беларускай сьвядомай інтэлігэнцыі, бо настаўніцтва, якое магло-б адыграць паважную ролю ў адраджэньні беларускасьці Смаленшчыны, ў большасьці сваёй зрусіфікована. Вельмі характарным паказьнікам росту нацыянальнае беларускае сьвядомасьці ў Смаленшчыне зьяўляюцца пастановы валасных зьездаў сялян, якія дамагаюцца адчыненьня беларускае настаўніцкае сэмінарыі і пляновае сеткі беларускіх школаў. Такія пастановы вынесьлі Руднянскі валасны зьезд і іншыя.

Горай стаіць справа з беларускаю прэсаю і бе-

ларускаю кнігаю. Зрусіфікованае вякамі беларускае насяленьне няпісьменнае пабеларуску. І дзеля гэтага распаўсюджаньне газэт і кніжак у беларускай мове вельмі трудна. Апрача таго павятовыя аддзелы асьветы вельмі перашкаджаюць пашырэньню беларускае літэратуры; былі выпадкі, калі сьвядомых беларускіх настаўнікаў, якіх у Смаленшчыне вельмі мала, пераводзілі з беларускага району ў районы расейскія. Рабілася гэта дзеля таго, каб не пашыраць беларускае „заразы". Але гэтым беларускага руху ў Смаленшчыне спыніць ня можна, бо ён мае пад сабою моцны грунт у мільённых пластох беларускага сялянства.

*М.*

# Корэспондэнцыі.

## З жыцьця вёскі.

(Дзісьненшчына).

Ня кожны ведае, як цяжка жывецца земляробу на вёсцы.

Няма мусі нідзе такога гора, як у сучасны момэнт на вёсцы. Палова вясковых гаспадароў, ці як цяпер называюць „obywatelów", вясной ня мае куска хлеба, а ні нават бульбы; яны мусяць жывіцца крапівой і шніткай (трава якая расьце па равох і каля платоў).

Вось і жыві! А тут яшчэ і працаваць трэба. Ведама, ня ўсюды пануе такая нядоля, пэўна ёсьць многа вёсак, дзе гаспадары жывуць у лепшых абставінах. У другіх краёх даюць дапамогі, палёгкі, а ў нашай беднай Беларусі, дык адно толькі ведаюць, гэта браць ад нас. Таму марнеюць нашыя гаспадаркі, наадварот, іх трэба было-б палепшыць. Бедны селянін, хаця дзень і ноч працуе, мусіць жыць бяз хлеба і насіць лапці.

Так жывецца ўжо даўно, і шэрая вёска—бедная і цёмная. Бо народ наш патрабуе новага запасу культурнае стравы. Бо ўсё ідзе наперад і гэтага запасу культуры, які дастаўся ад дзядоў і прадзедаў, замала. Ня дзіва, што вёска заснула, дзіва што ніхто ня будзіць яе.

*Пэзя.*

## Вечарына на вёсцы.

Жукі-ложныя Дзісьн. пав.

Трапілася мне быць у вышэй успомненай вёсцы на вечарыне, на звычайнай вясковай вечарыне-танцульцы. Ведама моладзь хоча пагуляць, наахвоціцца. І ўсё было-б добра. Але, нажаль, гарэлка заўсёды ўсё добрае псуе, так і тут было. Некалькі хлапцоў, напіўшыхся гарэлкі, пачалі бойку. У рэзультаце, адзін мае разьбітую галаву, другі мае руку разьбітую і г.д., а самі яны ня ведаюць, хто біў і за што. Проста стыд і ганьба. Ці-ж ня лепей было-б, каб моладзь вёскі Жукі, час спаганяла на чытаньні карысных кніжак ці беларускіх газэт? Тады будзе яна і разумнейшая і галовы будуць цэлыя. Ці-ж ня ведаеце, што праклятая гарэлка — гэта атрута. Дык глядзеце, братцы, каб больш гэтак ня было, бо гэта стыд і ганьба. Аб гэтым павінен памятаць Грозны, які зьяўляецца найвялікшым вінавайцам.

*Прысутны.*

## М-ка Жодзішкі, Вялейскага пав.

Ёсьць у нашым мястэчку нейкі прыблуда, звацъ яго А. Солтык, які жывецъ у нас ужо 7 гадоў, а цяпер займаецъ пасаду сэквэстратара. Валасная Рада протэставала і не хацела згадзіцца на тое, каб ён аставаўся сэквэстратарам, дзеля таго, што Солтык зьяўляецца даволі цёмнай фігурай. Падтрымуе яго перш за ўсё наш войт. Вось гэты Солтык быў перад гэным паліцыянтам, але за надужывы яго звольнілі. Пасьля стаў ён пісаць прашэньні. Але і тут здарыўся выпадак, які сьведчыць аб яго нячэснасьці: ён хацеў ашукаць пры падпісваньні вэксэля на 150 даляраў. За гэта яго акружны суд засудзіў. Вось які чалавек займае месца сэквэстратара.

*Сусед.*

## Свой дур.

Кал. Сталіца, Гэрманав. вол.

Хоць цяжка жывецца каляністым, аднак лепш, як перад падзелам на хутары. Цяжка дзеля таго, што зямлі замала маюць. Забудаваньні параскіданы дужа рэдка, дык падчас бураў і вялікіх ветроў кепска бываець. Вецер з каторага боку ні захопіць, дык і рвець. Стрэхі амаль у кожнага гаспадара пазадзіраў, а ў аднаго, Б. Руўніковіча, як уляцеў праз дзьверы, дык праз вакно выляцеў, паразьбіваў вокны, а нават рамы павырываў.

А чаму гэта так? Таму, што гаспадары ня садзяць дрэваў і вецер ня маець перашкодаў. А каб нашы гаспадары пасадзілі сад, а кругом будынкі абсадзілі ліпамі і тапалямі, дык было-б зацішней і спакайней. Вецер не рабіў-бы такіх шкодаў. Дзякуй Богу, ўжо 15 год на хутарох, а ніхто не засадзіў саду. А сад гэта добрая штука, і зацішней для будынкаў і карысьць ёсьць з фруктаў. Браты-сяляне, не шкадуйце часу і працы, садзеце сады і іншыя дрэвы. А як садзіць сад, знойдзеце ў „Бел. Дні"; хто яго будзе выпісваць і чытаць, той палепшыць сваю гаспадарку.

*Вільгэльм Хаданёнак.*

## Мала карысьці прыносе нам польская школа.

Ад нашае вёскі за вярсту ёсьць польская школа, ў каторую нашыя дзеці ходзяць вучыцца. Навука вядзецца толькі ў польскай мове. У нашых вёсках палякоў нямашака, дзеля чаго і мова польская для беларусаў ёсьць незразумелай, а перш за усё, для дзяцей.

Дзіця ў веку сем год, ня чуўшы дагэтуль польскае мовы, ідзе да школы вучыцца і вучаць яго там толькі папольску. Вядомая рэч, што беларускае дзіця, прахадзіўшы 4 зімы ў польскую школу, дзе вучаць

у мове, мала для яго зразумелай, ня будзе ўмець нават добра пісаць і чытаць.

## Адраджэньне вёскі.

(Голас з Маладзечаншчыны).

Так сама, як і па ўсіх кутках нашай дарагой Бацькаўшчыны, тое і ў нашым Маладзечанскім пав., сялянства жыве ўгнечана, ў недастатку, не дае навукі хаця-бы пачатковых школаў для сваіх дзяцей. Бо хоць ведаюць бацькі, што гэта ёсьць патрэбным, але не дапускаюць, каб выўчыць дзяцей, матар'яльныя недахопы. Калі дзіця троху падрасьце, то яго зараз трэба выправіць служыць у двор да пана, бо ў хаце няма чаго есьці, а там хоць пракорміцца.

Гляньма-ж на нашу вёску, што ў ёй дзеецца, як жывуць?

Вёска складаецца з 209 хатаў. Дзяцей у школьным веку болей як 100. А школы няма хоць-бы і ў мове польскай, а то і ў пабочных вёсках няма. Сялянства выключна беднае (багатыр, хто мае 5 дз., а такіх аж 4, а так гаспадары на 1-2-3 дзес.). Што-ж можа зрабіць на такой гаспадарцы селянін? Можа ён пасылаць дзяцей у школу і даваць адукацыю для дзіцяці? Можа ён задаволіць сваё жыцьцё? Не, ня можа. Бо гэтаму праціўнікі—падаткі і другія недастаткі.

А ўсё-ж такі мы ня можам сказаць, што вёска ў горы, ў недастатку, а нічога ня мае ў сэрцах сваіх, а ні з чым ня лічыцца, ня імкнецца да культуры, асьветы, да палепшаньня жыцьця свайго. Не, вёска расьце, разьвіваецца ўва ўсіх галінах свайго жыцьця.

Глянем яшчэ колькі гадоў назад, што рабілася ў вёсцы? Самі сяляне не спагадалі сабе і свайму жыцьцю. Калі знаходзілі часіну, то забіраліся ў хату і там п'янствавалі, ды праіграваліся ў карты. Пасьля разьбівалі вокны, а таксама сабе галовы і г.д. А што маглі «добрае» ўзяць за прыклад, гледзячы на гэта іхныя дзеці?

Цяпер вёска зьмянілася на лепшае, а прычынілася да гэтага роднае беларускае слова. Прэса заклікае да адраджэньня, да палепшаньня, да культурнага жыцьця. І мы бачым, што вёска адрадзілася пад кліч сваіх братоў, пад гэтым сьцягам адзінага палепшаньня свайго жыцьця.

І мы верым, што ўсё гэта будзе і што вёска беларуская дапне свае мэты і здабудзе ўсё тое, што патрэбна для жыцьця яе. Ужо ўзышло сонейка адраджэньня праўды і яснае долі! І гэтага ніхто не разаб'е, ані гром грымучы, ані маланка палючая, і гэта будзе!

І мы ў полымі веры!

*П. Манін.*

## Самаўрад і школа.

26 г. м. у м. Сельцу, Пружанскага пав. адбылося паседжаньне Валасное Рады. Яшчэ перад паседжаньнем настаўнікі і настаўніцы польскіх школаў у валасьці ўнясьлі протэст у валасную Раду, дзеля таго, што рада мяшаецца ў іх школьныя справы, тады як да компэтэнцыі валасное Рады школы не належаць. Між іншым, у гэтым протэсьце гаворыцца, што валасная Рада павінна клапаціцца толькі аб тым, каб настаўнікі і школы былі забясьпечаны матар'яльна, а да таго, як вядзецца навука ў гэтых школах, Рада не павінна мяшацца. У гэтым яны выключна залежаць ад школьнага інспэктара, які адзін толькі мае права іх кантраляваць.

## Ці варта?

На адной з вуліц нашага мястэчка, зусім блізка ад рынку, зварочвае ўвагу прыгожы дом. Радашкаўцы памятаюць гэны дом, бо ў ём калісь, больш дзесятка гадоў таму назад мясьцілася „мікалаеўская манаполька". Тут можна было заусёды дастаць за 21 кап. паўбутэльку на месцы, а за 23 і на вынас. А каму хацелася болей—даставаў болей. „Казённое віно" адпускалася заусёды бяз грошай, без абмежаваньня колькасьці.

Ну і пацягвалі людзі гэну сівуху. Раз што і капейка лягчэй прыходзіла, — ну і цёмны быў народ і, апрача выпіўкі, ня ведаў ніякай радасьці і пацехі ў сваім гаротным жыцьці. Кожную нядзелю можна было застаць у гэтым доме пры бутэльцы двух сяброў з пачырванеўшымі тварамі, якія лапаталі бяссувязныя гаворкі. Праз нейкі час гэтых самых, пакляўшыхся ў вечнай дружбе, сяброў можна было ўбачыць на вуліцы, тузаючыся за грудзі і зьбіваючых адзін аднаму шапкі з найгоршымі лаянкамі.

Пасьля яны ізноў гадзіліся, а сваю згоду запівалі ў рэстаране, а пасьля пападалі ў вучастак выцьверазіцца. Гэтак рабілася калісь. Але прайшло шмат гадоў з тэй пары. Дом гэты купіў і жыў з сям'ёю грам. Г—чэс. І дагэтуль было ціха. Але ў прошлым годзе ў другім доме адчыніўся рэстаран. Здавалася-б, што за нейкіх 12—13 гадоў у часе, ў якім адыграліся вялікія падзеі, народ наш павінен быў паразумнець і асьведаміцца, каб уцяміць нарэшце, што гарэлка—гэта атрута, якая чалавека забівае.

Яно і ўцямілі людзі, але на вялікі жаль, ня ўсе і цяпер у кожны таргові дзень або ў сьвята зьбіраецца натоўп цікавых глядзельнікаў, каб паглядзець на бойку п'яных сялян.

Нядаўна ў нас здарыўся гэтакі выпадак. 14.V.27. местачковая моладзь сабралася на вечарынку. Сьпярша гулялі, пасьля пачалі біцца. Аднак, дзеля таго, што замала выпілі і замала пакалечылі сябе,—пайшлі ў шынок, каб напіцца і набраць дзікае, зьвярынае энэргіі. Пасьля зышліся і пачалі бойку. У рэзультаце малады хлапец з в. Максімаўкі, служачы ў п. Сніткі, парэзаў другому маладому хлопцу твар і плечы. Вінавайца схаваўся. І так, адзін страціў службу і будзе засуджаны, другі, па прафэсіі шавец, страціў здольнасьць да працы. А ўсё праз гарэлку! Дык вось, братцы, скажэце, калі ласка, ці варта гэта піць гарэлку, якая пазбаўляе чалавека розуму і даводзіць да гэткіх агідных паступкаў?

Дзяўчына.

### Апамятайся, ойча!

(Горадзеншчына).

...Сумнае зьявішча... Сярод царквы стаіць труна, супачыў у ёй навекі гаротны працаўнік, селянін 40 гадоў з вёскі Баброўні, ня вытрымаў штодзённага змаганьня за кавалак чорнага хлеба. Пакінуў па сабе пяцёра дзетак, з іх старэйшаму хлапцу 15 гадоў. Роднай маткі няма, плачуць, лемянтуюць круглыя сіроткі, льлюцца дажджом нявінныя горкія сьлёзы. Самае чорствае загрубелае сэрца, закранула-бы гэты сумны абраз нявымоўнага гора, ўзварухнуў-бы пачуцьцё жалю. Адзін, хто прывык карыстаць з чужой бяды, каму праз гэтыя сірочыя сьлёзы, дастаецца лёгкая луста „насущного“ — поп Галавацкай царквы — старэнькі ўдушлівы чалавечак, з каменным спакоем у твары, стаяў у выхадных дзьверох із „сьвятое-сьвятых“ і, як жыд, таргаваўся, вымагаючы надбаўкі звыш 36 залатовак, заплочаных за абедню, ня хочучы выканаць свайго простага абавязку — праваадзіць нябошчыка на могільнік, які знаходзіцца недалёчка ад царквы.

Апамятайцеся, духоўны ойча! ці гэтак Вас вучыў Той, запаведзям Якога Вы навучаеце нас?!

*М. В.*

## ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ.

Выбары ў Самаўрады ў Навагрудзкім ваяводзтве.

У Баранавічах заснаваўся акружны сэкрэтарыят па выбарах у самаўрады, на чале якога стаў мясцовы беларускі дзеяч Аўген Міткевіч. Акружны Сэкрэтарыят выпусьціў аднаднёўку пад назваю „Самаўрад“, як на Баранавічы вельмі добра выданую з багатым зьместам. У аднаднёўцы, апрача агульных артыкулаў аб значэньні самаўрадаў, зьмешчаны адозвы да беларусаў — сялян выбаршчыкаў і выняткі з закону аб самаўрадах.

Новы „Сялянскі Саюз“.

У Вільні выдрукавана аднаднёўка „Народ“, з якое відаць, што заснованы нейкі новы „Сялянскі Беларускі Саюз“ побач з сельсаюзам Ярэміча. На чале гэтага новага саюзу стаў вядомы Янка Станкевіч, які раней працаваў у „Сялянскай Ніве“, але нешта не паладзіў з паслямі Рагуляй і Ярэмічам, выйшаўшы з рэдакцыі „С. Н.“.

## Палітычны агляд.

— Бальшавікі незадаволены прыгаварам суда над Кавэрдай. Яны выносяць рэзалюцыі, ў якіх дамагаюцца кары сьмерці для Кавэрды. Адначасна ў сябе пачалі страшэнны тэрор.

— Сойм склікаваны на 20 чэрвеня на першым паседжаньні вынес пастанову, на моцы якой Сойм можа сам распусьціцца, патрэбна для гэтага $^{2}/_{3}$ паслоў пры палове прысутных.

Пастанова гэтая ідзець проціў замераў урадовых кругоў прадоўжыць існуючы Сойм яшчэ на 2 гады.

Ініцыятарамі гэнае пастановы была партыя польскіх соцыялістых.

— Цяпер адбываюцца немаль ня ўсюды выбары ў гарадзкія самаўрады.

Усюды эндэцыя траціць свае ўплывы на карысьць польскіх радыкальных партыяў. Асабліва польскія соцыялістыя перамагаюць, як напрыклад у Вільні; а яшчэ большую перамогу яны адтрымалі ў Любліне, дзе на 48 мандатаў 18 соцыялістых.

— Фінляндыя выслала бальшавіцкаму ўраду ноту, ў якой протэстуе проціў расстрэлу фінляндзкага грамадзяніна Эльвэнгрэна.

## Вынікі выбараў у Віленскую Гарадзкую Раду, якія адбыліся 19.VI 27 г.

| | | |
|---|---|---|
| № 1 | Беларуска-расейскі сьпісак | 1 м. |
| № 2 | П. П. Соцыялістых | 9 м. |
| № 4 | Жыдоўская партыя „Бунд“ | 3 м. |
| № 5 | Літоўцы | 1 м. |
| № 8 | Жыдоўскі нацыянальны блёк | 9 м. |
| № 10 | Дэмакраты (пілсудчыкі) | 5 м. |
| № 12 | Монархістыя | 4 м. |
| № 14 | Эндэкі | 11 м. |
| № 15 | Незалеж. соцыял. | 5 м. |

Сярод выбраных 2 беларусаў адзін са сьпіску № 1, другі з № 15 і адзін ліцьвін. Рэшта сьпіскаў не дастала ніводнага мандату.



Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ

Выд. Т-ва „Pogoń“ Друк. „Рах“, вул. Сьв. Ігната 5.